Пра гэта трэба ведаць

# Радыеэкалагічныя наступствы катастрофы на ЧАЭС

***Фарміраванне радыеактыўнага забруджання прыроднага асяроддзя на тэрыторыі Беларусі пачалося адразу ж пасля выбуху рэактара. Асаблівасці метэаралагічных умоў, што назіраліся ў перыяд з 26 красавіка па 10 мая 1986 года, а таксама склад і дынаміка аварыйнага выкіду радыеактыўных рэчываў абумовілі складаны характар забруджання тэрыторыі рэспублікі.***

Забруджанне тэрыторыі Беларусі звыш 37 кБк/м$^2$ па цэзіі-137 склала 23 працэнты ад усёй плошчы рэспублікі. Для параўнання: на Украіне яно складае 5 працэнтаў, у Расіі — 0,6 працэнта. Гэта сведчыць пра больш складаныя і цяжкія наступствы чарнобыльскай катастрофы для Беларусі ў параўнанні з Расіяй і Украінай.

Улічваючы маштабнасць і цяжкасць наступстваў катастрофы, Вярхоўны Савет Беларусі ў ліпені 1990 года аб'явіў тэрыторыю рэспублікі зонай экалагічнага бедства. Была прынята Дзяржаўная праграма па пераадоленні наступстваў катастрофы на ЧАЭС на 1990 — 1995 гг. і на перыяд да 2000 г. Мэта гэтай праграмы — стварэнне бяспечных для здароўя чалавека ўмоў жыццядзейнасці ў раёнах, якія трапілі пад радыеактыўнае забруджанне.

Важнай задачай у пасляаварыйны перыяд з'явілася таксама ацэнка радыеактыўнага забруджання тэрыторыі нашай краіны і правядзенне радыяцыйнага маніторынгу аб'ектаў прыроднага асяроддзя.

Згодна з артыкулам 40 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падпалі пад радыеактыўнае забруджанне ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС", агульную ацэнку радыяцыйнага становішча на тэрыторыі рэспублікі (радыяцыйны маніторынг) і метадычнае кіраўніцтва ажыццяўляе Дзяржаўны камітэт па гідраметэаралогіі.

Сёння ў нашай краіне радыяцыйны маніторынг аб'ектаў прыроднага асяроддзя ажыццяўляюць наступныя дзяржаўныя ўстановы: Дзяржкамгідрамет, Мінсельгаспрад, Мінлясгас, Мінжылкамунгас, інстытуты Нацыянальнай акадэміі навук, вытворчае аб'яднанне "Беларусьгеалогія", Белгіправадгас, Палескі дзяржаўны радыеэкалагічны запаведнік. Для вывучэння характару паводзін радыенуклідаў у розных экасістэмах і выпрацоўкі прагнозаў арганізаваны фундаментальныя навуковыя даследаванні.

З улікам спецыфікі радыеактыўнага забруджання асобных рэгіёнаў, іх ландшафтна-геахімічных асаблівасцей і іншых фактараў арганізавана сетка пастаяннага маніторынгу навакольнага асяроддзя Дзяржкамгідрамета. Даследаванні праводзяцца на 181-й пляцоўцы, дзевятнаццаці ландшафтна-геахімічных палігонах. На метэаралагічнай сетцы Дзяржкамгідрамета праводзіцца радыяцыйны маніторынг прыземнага слоя атмасферы: вымярэнне магутнасці экспазіцыйнай дозы гама-выпраменьвання на 57 пастах, адбор радыеактыўных выпаданняў з атмасферы на 30 пастах і радыеактыўных аэразолей на шасці пастах. На гідралагічных пастах пяці вялікіх і сярэдніх рэк рэспублікі, якія працякаюць па радыеактыўна-забруджаных тэрыторыях, ажыццяўляецца маніторынг павярхоўных вод.

### Забруджанне тэрыторыі Рэспублікі Беларусь радыеактыўным ёдам

У першы перыяд пасля катастрофы ўзровень радыеактыўнага забруджання радыенуклідамі ёду, што жывуць нядоўга, у многіх рэгіёнах рэспублікі быў такім вялікім, што выкліканае ім выпраменьванне мільёнаў людзей кваліфікуецца спецыялістамі як перыяд "ёднага ўдару".

Вывучэнне эксперыментальнага матэрыялу па вымярэннях актыўнасці ёду-131 у выпаданнях паказвае, што яго аб'ём прасторава абмежаваны і не дае магчымасці пабудаваць дэталёвую карту радыеактыўнага забруджання ёдам-131 усёй тэрыторыі Беларусі. Таму была выканана рэканструкцыя размеркавання ёду-131 на тэрыторыі Беларусі па стану на 10 мая 1986 года.

У красавіку — маі 1986 года найбольшы ўзровень выпадання ёду-131 назіраўся ў блізкай зоне ЧАЭС — у Брагінскім, Хойніцкім, Нараўлянскім раёнах Гомельскай вобласці, дзе яго ўтрыманне ў глебах склала 37000 кБк/м$^2$ і больш. У Чачэрскім, Кармянскім, Буда-Кашалёўскім, Добрушскім раёнах узроўні забруджання дасягалі 18500 кБк/м$^2$.

Значнае забруджанне пацярпелі таксама паўднёва-заходнія рэгіёны — Ельскі, Лельчыцкі, Жыткавіцкі, Петрыкаўскі раёны Гомельскай вобласці і Пінскі, Лунінецкі, Столінскі раёны Брэсцкай вобласці.

Высокі ўзроўнь забруджання меў месца і на поўначы Гомельскай і Магілёўскай абласцей. У Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці ўтрыманне ёду-131 у глебе дасягала 20000 кБк/м$^2$. У Магілёўскай вобласці найбольшае забруджанне адзначалася ў Чэрыкаўскім і Краснапольскім раёнах (5550-11100 кБк/м$^2$).

Забруджанне тэрыторыі ёдам-131 абумовіла апраменьванне шчытападобнай залозы ў дзяцей у вялікіх дозах, што прывяло да значнага павелічэння яе паталогіі.

### Забруджанне тэрыторыі Беларусі цэзіем-137

Аналіз карт радыеактыўнага забруджання тэрыторыі Беларусі паказвае, што можна выдзеліць некалькі асноўных плям. Перш за ўсё гэта блізкая зона Чарнобыльскай АЭС, куды ўваходзіць і 30-кіламетровая зона вакол самой станцыі. Узроўні забруджання глебы цэзіем-137 гэтай тэрыторыі надзвычай высокія, максімальныя значэнні ў асобных пунктах перавышалі 37000 кБк/м$^2$ (1000 Кі/км$^2$). У той жа час на гэтай тэрыторыі ў асобных пунктах узроўні забруджання глебы цэзіем-137 не перавышаюць 185 кБк/м$^2$ (5 Кі/км$^2$). Гэтая пляма сфарміравалася за кошт шматразовых выпаданняў ад пачатку аварыі да сярэдзіны мая 1986 года.

Наступным па часе пасля блізкай зоны можна лічыць заходне-паўночна-заходні след: паўднёвая і паўднёва-заходняя частка Гомельскай вобласці, цэнтральныя часткі Брэсцкай, Гродзенскай і Мінскай абласцей. Узроўні забруджання тут значна ніжэйшыя, чым у блізкай зоне ЧАЭС. Пры гэтым неабходна звярнуць увагу на той факт, што забруджаныя паветраныя масы над часткай гэтых тэрыторый (паўднёвая частка Гомельскай і Брэсцкай абласцей) праходзілі двойчы (першы і другі перыяды), таму выпаданні там нельга лічыць аднакратнымі.

Трэцяй плямай па часе фарміравання можна лічыць поўнач Гомельскай і цэнтральную частку Магілёўскай абласцей. Радыеактыўныя выпаданні на гэтых тэрыторыях пачаліся 27 красавіка, што на суткі пазней, чым у паўночнай і заходняй частках Беларусі. Актыўнасць цэзію-137 у выпаданнях на гэтай тэрыторыі вельмі высокая і ў асобных пунктах параўнальная з забруджаннем 30-кіламетровай зоны ЧАЭС.

### Забруджанне тэрыторыі Рэспублікі Беларусь стронцыем-90

Забруджанне тэрыторыі рэспублікі стронцыем-90 у параўнанні з цэзіем-137 носіць больш лакальны характар. Узровень забруджання глебы гэтым радыенуклідам вышэй за 5,5 кБк/м$^2$ (0,15 Кі/км$^2$) выяўлены на плошчы 21,1 тыс.км$^2$., што склала 10 працэнтаў ад тэрыторыі рэспублікі. Максімальныя ўзроўні стронцыю-90 выяўлены ў межах 30-кіламетровай зоны ЧАЭС і дасягалі велічыні 1800 кБк/м$^2$ (48,6 Кі/км$^2$) у Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці. Найбольш высокая актыўнасць стронцыю-90 у глебе ў далёкай зоне выяўлена на адлегласці 250 кіламетраў — у Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці і складае 29 кБк/м$^2$ (0,78 Кі/км$^2$), а таксама ў паўночнай частцы Гомельскай вобласці, у Веткаўскім раёне — 137 кБк/м$^2$ (3,7 Кі/км$^2$).

Са значэннямі магутнасці экспазіцыйнай дозы (МЭД) больш за 20 мкР/г: Слаўгарад, Хойнікі, Брагін, Чачэрск і Нароўля.

Аналіз даных паказвае, што для населеных пунктаў паўночнага рэгіёна (Брагін), адзначаецца сезоннае змяненне МЭД гама-выпраменьвання. Для астатніх плям, дзе МЭД гама-выпраменьвання параўнальная з даварыйнай, ярка выяўленых сезонных змяненняў МЭД не назіраецца.

### Радыеактыўнае забруджанне паверхневых вод

У сённяшні час рэкі з'яўляюцца асноўным шляхам пераносу радыенуклідаў, у тым ліку трансгранічнага. У вадасцёках і праточных вадаёмах канцэнтрацыя радыенуклідаў памяншаецца, у непраточных жа вадаёмах, замкнутых азёрах, сажалках і вадасховішчах з паніжаным рэльефам назіраецца назапашванне радыенуклідаў у донных адкладах.

Аналіз даных утрымання цэзію-137 падчас веснавой паводкі 1999 года ў басейне ракі Прыпяць (Мазыр) паказаў, што канцэнтрацыі цэзію-137 у растваральнай форме засталіся на ўзроўні сярэдніх значэнняў канцэнтрацый па дадзеным створы за папярэднія гады (1996 — 1998). Аднак канцэнтрацыі радыенукліду на завісях значна павялічыліся, што сведчыць пра яго змыў і перанос з цвёрдым матэрыялам з вадазбору ракі паводкавымі водамі. Сёння назіраецца выразная тэндэнцыя памяншэння вынасу цэзію-137 рэкамі.

З агульнай сумарнай актыўнасці цэзію-137, вынесенай кожнай з рэк за 12 гадоў, 85 — ракой Іпуць на працягу двух гадоў, 81 — актыўнасці вынесены ракой Сож за тры гады, ракой Бесядзь — за чатыры гады, ракой Прыпяць — за 6 гадоў і 71 працэнт актыўнасці вынесены ракой Днепр на працягу дзевяці гадоў. Супастаўленне вынасу цэзію-137 за перыяд 1987 — 1993 гг. на замыкаючых створах рэк Днепр і Прыпяць у межах Украіны і на гідрапастах Беларусі паказвае, што толькі 26 працэнтаў ад агульнага вынасу радыецэзію фарміравалася ў 30-кіламетровай зоне ЧАЭС. Такім чынам, у фарміраванні рачнога сцёку вялікія вадазборныя пляцоўкі з нізкім узроўнем радыеактыўнага забруджання аказваюць большы ўплыў на другаснае забруджанне рэк, чым павярхоўны змыў з вельмі забруджаных тэрыторый, але з адносна малымі плошчамі вадазбору.

**Іван МАТВЕЕНКА,**
**кіраўнік Рэспубліканскага цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя Дзяржкамгідрамета.**



## 15 год пасля Чарнобыля

НА ЗДЫМКАХ: вёска Бабчын Хойніцкага раёна; нібыта страшная вайна прайшла па гэтых мясцінах, пакінуўшы забітыя вокны дамоў, друз, абпаленыя свечкі комінаў.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**



Дабрачыннасць

# "Дарога жыцця" дорыць надзею

***15 гадоў споўнілася з дня трагічнай даты, якая перавярнула жыццё беларускага народа, — катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. І няхай не нашы вучоныя праектавалі рэактар, няхай выбух здарыўся не на тэрыторыі нашай дзяржавы, але 70 працэнтаў наступстваў катасрофы прыняла на сябе менавіта наша Беларусь. З цягам часу праблем не памяншаецца. Яны вырашаюцца і на міжнародным узроўні, і на ўзроўні дзяржавы, і з дапамогай грамадскіх аб'яднанняў. Адным з іх з'яўляецца Беларускі саюз моладзі. У пятнаццаты раз стартуе іх Міжнародная дабрачынная творчая праграма "Чарнобыльскі шлях — дарога жыцця".***

Сёлета ў праграме зноў прыме ўдзел (ужо 15-ы раз!) народны артыст СССР, кампазітар Ігар Міхайлавіч Лучанок; ансамбль "Цярніца" пад кіраўніцтвам дацэнта Беларускага універсітэта культуры Галіны Дзмітрыеўны Несцяровіч; заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, вядучы саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Віктар Аляксандравіч Стральчэня і многія іншыя дзеячы культуры.

Праз 21 раён Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей і праз тры раёны Расіі (Навазыбкаўскі, Суражскі, Шумячскі) будзе праходзіць гэты шлях 442 таленавітыя дзіцяці выйдуць у гэты раз на сцэну разам з прафесійнымі артыстамі. У кожным раёне адбудзецца па 4-5 канцэртаў для дзяцей і дарослых. Акрамя таго, у праграму ўключаны абавязковыя наведванні дзіцячых рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтраў. А закончыцца акцыя 26 красавіка ў Гомелі фінальным канцэртам "У будучыню — з надзеяй".

Беларускі саюз моладзі актыўна супрацоўнічае з парламенцкай камісіяй па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстання, з Камітэтам па справах Чарнобыля, у рамках якога распрацавана дзяржаўная праграма па мінімізацыі наступстваў катастрофы на чарнобыльскай АЭС на 2001-2005 гг. Асноўнымі яе напрамкамі з'яўляюцца: ўдасканаленне медыцынскай і прафілактычнай дапамогі насельніцтву, кантроль гадавых доз апраменьвання насельніцтва, якое пастаянна жыве на забруджаных тэрыторыях; развіццё і ўдасканаленне матэрыяльна-тэхнічнай базы аховы здароўя і рэабілітацыйна-аздараўленчых устаноў; стварэнне эфектыўнай сістэмы сацыяльнай абароны з мэтай псіхалагічнай рэабілітацыі асоб, у найбольшай ступені закранутых катастрофай (ліквідатараў, эвакуіраваных у 1986 годзе); правядзенне на найбольш забруджаных тэрыторыях мер у аграпрамысловай вытворчасці, сельскай гаспадарцы, якія накіраваны на забеспячэнне ўтрымання радыенуклідаў у ежы ў межах пэўных нормаў.

Калі адразу пасля катастрофы з дзяржаўнага бюджэту на ліквідацыю наступстваў было выдзелена ад 20 да 25 працэнтаў сродкаў (асабліва да 1991 года), то ў 2000 годзе гэтая лічба склала ўсяго 9 працэнтаў. Гэта таксама немалыя грошы, але іх усё роўна не хапае. Вельмі састарылася (маральна і фізічна) матэрыяльная база ўстаноў аховы здароўя, аб'ектаў культуры і адукацыі. У наяўнасці — кадравая праблема.

Апошнія 5 гадоў Беларускаму саюзу моладзі дапамагае унітарнае прыватнае прадпрыемства "Дарыда", якім у рамках Чарнобыльскай праграмы аздараўлення насельніцтва распрацавана новая артэзіянская пітная газіраваная вада "Ёдная Дарыда". Ёд у ёй знаходзіцца ў звязаным стане і не раскладаецца на працягу ўсяго тэрміну захоўвання. Толькі ў мінулым годзе прадпрыемства выдзеліла "Чарнобыльскаму шляху" 6000 бутэлек пітной вады.

Дабрачынная арганізацыя "Чарнобыльскі шлях — дарога жыцця" нясе людзям, што жывуць у найбольш забруджаных рэгіёнах, не толькі задавальненне ад канцэртаў, ад узаемінаў з артыстамі, не толькі матэрыяльную дапамогу, але найперш — надзею на лепшае, упэўненасць у тым, што пра гэтых людзей помняць і што чарнобыльская бяда не засталася толькі іх асабістым горам.

**Вольга СКАРБЕНКА,**
**студэнтка III курса факультэта журналістыкі БДУ.**

По загаду сэрца

# Юныя памочнікі

***Былая жамчужына паўднёвай Беларусі Гомельшчына апынулася сёння на скрыжаванні радасці і болю. Боль гэты, нанесены чарнобыльскім ядзерным выбухам, сёння ў сэрцах тысяч беларусаў.***

***Адна з найвастрэйшых праблем сучаснасці — экалагічная. У барацьбу за захаванне нашай прыроды, яе экалогіі актыўна ўключыліся школьнікі — юныя эколагі вобласці.***

У Гомелі працуе абласны Эколага-біялагічны цэнтр дзяцей і моладзі. У любую пару года тут ідзе напружаная, выхаваўчая работа з дзецьмі. Юныя эколагі разам з кіраўнікамі гурткоў сочаць за станам навакольнага асяроддзя, зямельных угоддзяў, праводзяць доследныя вопыты на ўчастках сумесна з вучонымі-біёлагамі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны і Беларускага інстытута лесу. Школьнікі займаюцца вымярэннем фону радыяцыі, узроўню забруджання зямлі і прадуктаў, планаваннем севазваротаў, працуюць у лясных масівах, арганізоўваюць і праводзяць свята ўраджаю, розныя творчыя конкурсы і выставы па прыродаахоўнай тэматыцы і інш.

А ў светлагорскім гарадскім Экалагічным цэнтры навучэнцаў ёсць аб'яднанне "Юны эколаг", у якім працуюць гурткі "Лекавыя расліны", "Юныя сябры прыроды", "Малыш і прырода", "Кветкаводства", студыя флорадызайну, школа экалагічных ведаў, бібліятэка юнага эколага, дзейнічае навуковае таварыства "Экалагічны маніторынг". Вядомы ў рэспубліцы і клуб "Крынічка" са спецыяльным атрадам эколагаў. Дзеці вывучаюць прыроду роднага краю, праводзяць экскурсіі і паходы, экалагічныя святы, абагульняюць вынікі сваіх даследаванняў і назіранняў у рэфератах, дакладах, сачыненнях, вядуць улік рэдкіх раслін, якія занесены ў Чырвоную кнігу, праводзяць суботнікі, экалагічныя сцяжынкі, аперацыі "Кармушка", "Шпакоўня", "Падснежнік", азеляняюць школьныя двары.

Творча падыходзяць да вырашэння экалагічных праблем і ў многіх школах вобласці. Шмат карысных спраў на рахунку гомельскай сярэдняй школы № 56. Яе вучні правялі акцыю ў абарону елкі. Устанавілі экалагічную сцяжынку ў прыгараднай лясной зоне, арганізоўваюць выступленні экалагічнай брыгады. Вялікая прыродаахоўная работа вядзецца ў Бабіцкай сярэдняй школе Рэчыцкага раёна, на базе якой створаны эка-інфармацыйны цэнтр. У ім вучні выконваюць сацыяльны заказ вёскі, інфармуюць мясцовае насельніцтва аб радыяцыйнай абстаноўцы. Юныя эколагі Старадзятлаўскай школы Гомельскага раёна стварылі сваю сцяжынку каля маляўнічага возера, вывучаюць яго змяненні ад уплыву практычнай дзейнасці чалавека. Юннаты Калінкавіцкага цэнтра занялі ў вобласці першае месца па зборы каштанаў.

Вось так, юныя прыродалюбы Гомельшчыны сваімі справамі і працай памнажаюць багацце роднай зямлі, пільна ахоўваюць яе.

**Людміла ГАРАЎЦОВА,**
**намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце гомельскага абласнога Эколага-біялагічнага цэнтра дзяцей і моладзі.**

Рэха Чарнобыля

# Пакуль пакутуюць дзеці, у нацыі няма будучыні

***Гэтыя словы каля ўвахода ў Дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр, звернутыя да людзей, адразу настройваюць на пэўны лад. Цэнтр разлічаны на 170 тысяч наведванняў у год. Агульная яго плошча — 6650 квадратных метраў. Цэнтр — гэта рэалізацыя ўяўленняў яго дырэктара А.Я.Волкава аб сучаснай медыцынскай установе. "Не патрабуй ад чалавека падзякі. Яна прыйдзе ад Бога", — не перастае паўтараць Анатоль Ягоравіч.***

Вучоны, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, А.Я.Волкаў каля чатырох гадоў пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС адпрацаваў у раёнах, якія пацярпелі ад катастрофы. З групай вучоных склаў карты-схемы забруджання гэтай тэрыторыі рознымі радыенуклідамі, а таксама ландшафтна-геахімічных палігонаў, дзе праводзяцца і доўгія гады яшчэ будуць весціся навуковыя даследаванні па ўплыву радыеактыўных рэчываў на прыроду і на чалавека.

Паколькі да з'яўлення названага цэнтра ў нашай рэспубліцы не было медыцынскай установы, якая сумесна з радыебіёлагамі вывучала б уплыў радыяцыі на біясферу, з поля зроку даследчыкаў выпадала галоўнае звяно, якое замыкае піраміду жывой прыроды, — чалавек. Анатоль Ягоравіч, калі зразумеў, як важна ў такой сітуацыі даследаваць гэту праблему, захапіўся ідэяй стварэння дыягнастычнага цэнтра. Перш за ўсё з'ездзіў у Японію: у народа, які перажыў ядзерную трагедыю, было чаму павучыцца. Там і быў заключаны дагавор аб бясплатнай пастаўцы сучаснага медыцынскага абсталявання коштам 4,5 мільёна долараў.

Сёння ў цэнтры адчуваеш сябе як у храме медыцыны. Тут з дапамогай японскага, французскага, нямецкага абсталявання абследуюцца дзеці з раёнаў Палесся, якія пацярпелі ад катастрофы. У лабараторыях клініка-гарманальных і біяхімічных даследаванняў усебакова аналізуецца кроў маленькіх палешукоў. Намецілася тэндэнцыя змянення яе формулы, на жаль, у горшы бок. Дарэчы, каб апрацаваць гэтыя даныя грунтоўна, патрабуецца не менш як тры гады супрацоўніцтва з высокакваліфікаванымі гематолагамі.

У аддзяленні функцыянальных даследаванняў працуюць кабінеты энцэфалаграфіі, ЭКГ; у клініка-кансультацыйным — гінеколага і эндакрынолага; у аддзяленні рэабілітацыі — кабінет ЛФК, салярый. У аддзяленні ультрагукавых даследаванняў можна своечасова выявіць паталогіі органаў брушной поласці, малага таза, шчытападобнай залозы. Будзе тут адкрыты і кабінет па лячэнні і пратэзаванні зубоў (у 60-80 працэнтаў дзяцей з пацярпелых раёнаў выяўляецца разбурэнне зубной эмалі).

Прыемная ціхая музыка ў калідоры, незвычайная чысціня паўсюль, уважлівае стаўленне супрацоўнікаў цэнтра да маленькіх пацыентаў супакойваюць іх і іх бацькоў, усяляюць надзею на выздараўленне. Тут высока цэняцца сумленнасць, прынцыповасць, стараннасць работнікаў, але галоўнае — іх прафесіяналізм. Сяргей Сідарэнка (выпускнік радыётэхнічнага інстытута), напрыклад, разам з калегамі з Мінска стварыў для цэнтра 60 праграм (рэгістрацыя, ультрагукавыя даследаванні і іншыя), інфармацыйны назапашвальнік на 12 мільёнаў пацыентаў.

За апошнія два гады ў цэнтры было абследавана 23 тысячы дзяцей з Пінскага, Столінскага, Лунінецкага, Драгічынскага і Іванаўскага раёнаў.

Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні праграмы медыцынскага абследавання насельніцтва Гомельскай, Магілёўскай, Брэсцкай абласцей, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС", дырэкцыя цэнтра заключыла дагаворы з адміністрацыямі рэгіянальных тэрытарыяльных медыцынскіх аб'яднанняў Лельчыцкага, Свіслацкага, Лунінецкага раёнаў аб камплектаванні перасовачных медыцынскіх брыгад, аснашчаных усім неабходным абсталяваннем. Ужо неўзабаве яны адправяцца ў гэтыя раёны для выяўлення хворых дзяцей, далейшага абследавання і лячэння ў цэнтры і ў іншых медыцынскіх установах Рэспублікі Беларусь. З моманту адкрыцця цэнтра даныя выкананых яго супрацоўнікамі даследаванняў склалі 40 тамоў справаздачнасці.

Работа па вывучэнні наступстваў катастрофы на ЧАЭС зроблена вялізная, закладзена прыстойная тэхнічная база. На думку дырэктара, цэнтр у стане грунтоўна даследаваць дадзеную праблему і ў будучым нават атрымаць статус навуковага. Для гэтага Прэзідыумам Нацыянальнай акадэміі навук зацверджаны шэсць фундаментальных тэм, над якімі трэба будзе працаваць вучоным.

Кітайскія спецыялісты выказалі жаданне да супрацоўніцтва ў пытаннях лячэння рака шчытападобнай залозы і іншых органаў, выкарыстоўваючы метады ўсходняй медыцыны. Адным словам, задумак мноства. Не перастаеш здзіўляцца невычэрпнай энергіі, энтузіязму А.Я.Волкава. І хаця ён сёння не дэпутат, людзі па-ранейшаму ідуць да яго са сваімі праблемамі, якія ён спрабуе вырашаць. Так, цэнтр падарыў інвалідам горада 20 калясак на суму 16 тысяч долараў. Гэтым людзям, з кім жорстка абышоўся лёс, на тэрыторыі цэнтра прадастаўлена спартыўная зала.

Дырэктар цэнтра ўсведамляе сваю адказнасць за лёсы дзяцей і сцвярджае, што вырашаць людскія праблемы, аналізаваць наступствы чарнобыльскай катастрофы, папярэджваць экалагічныя бедствы трэба сёння, бо заўтра можа быць позна. Ну, а сам Анатоль Ягоравіч у сааўтарстве з іншымі супрацоўнікамі дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра падрыхтаваў да друку сур'ёзную манаграфію "Пакуты цярпення: наступствы чарнобыльскай атамнай катастрофы для сённяшняга і будучага пакаленняў XXI стагоддзя".

Дарэчы, праведзеныя ў цывілізаваных краінах свету сацыялагічныя апытанні паказалі, што грамадзяне іх не хочуць бачыць у сябе аб'екты атамнай энергетыкі.

**Таццяна ЛУКАШЫК,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.**

# Зона болю

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

1997 год быў для школы ўдалым. Пабудавалі спартыўную залу, сталовую. І дзеці з задавальненнем займаюцца рознымі відамі спорту нават у вольны час, маюць неблагія поспехі. У каго ёсць вялікія здольнасці да навукі, мае магчымасць пасля дзевяці класаў паступіць у абласны ліцэй. Тэсціраванне праводзіцца прама на месцы, у школе. Калі гаварыць пра паступленне ў ВНУ, скажам так — год на год не прыпадае. Але ўжо каму пашанцуе стаць студэнтам, то не бывае ніякіх парушэнняў дысцыпліны, прагулаў, правалаў на экзаменах. У апошні час бацькі больш сур'ёзна ставяцца да вучобы дзяцей, бывае, што і ад пуцёвак адмаўляюцца ў тых выпадках, дзе гэта перашкаджае вучобе.

У мінулым годзе ў школе пабываў Прэзідэнт, абяцаў матэрыяльную падтрымку ў будаўніцтве басейна і тэнісных кортаў. Хоць у раёне ёсць думка, што не менш патрэбны дзецям і новы Дом творчасці, які не адно дзесяцігоддзе туліцца ў аднапавярховым драўляным будынку. Ужо некалькі гадоў па ініцыятыве культарганізатара Дома творчасці Уладзіміра Гусева праходзіць занальны фестываль дзіцячай творчасці "Іскрынкі Палесся". Занальны ў сэнсе прыезду гасцей з Рэчыцы, Лоева, Хойнікаў. Апошні раз пераможцай аднаго з конкурсаў стала Ірына Чарнабай, чые вершы друкаваліся ў нашай газеце. Так што свет цесны.

* * *

Брагінская бальніца заўсёды, нават у мінулыя часы, не сыходзіла ў людзей з языка. Там былі добрыя ўрачы, але іх заўсёды было мала. І калі здарыўся Чарнобыль, іх стала яшчэ менш. Не хапае медыкаў з вышэйшай адукацыяй і цяпер. Але паціху пачынаюць адсейвацца і тыя ўрачы, якія прыехалі ў зону немаведама для якой мэты — лячыць ці пазнаваць жыццё ва ўсіх яго праявах.

Дзіцячы ўрач А.Шэпілаў, выпускнік Гродзенскага медінстытута, працуе тут чатырнаццаць гадоў. Любяць яго і калегі, і дзеці. Эндакрынолаг Андрэй Леанідавіч Палякоў — пяць гадоў. Таццяна Уладзіміраўна Медзведзева, жаночы ўрач, — адзінаццаць. Нараджальнасць у раёне даволі высокая — у 2000 годзе нарадзілася 213 дзяцей. Іншая справа — не заўсёды з'яўленне дзіцяці бывае жаданым для жанчыны. Многія сем'і вядуць, мякка кажучы, не вельмі правільны лад жыцця і існуюць толькі на дзіцячую дапамогу, якая ў забруджанай зоне выплачваецца ў двайным памеры. Стан здароўя дзяцей таксама залежыць не толькі ад радыяцыі, але і ад таго, ці накормлены яны, ці ў добрым настроі. На дадзены момант Таццяна Уладзіміраўна — адзіны гінеколаг у раёне, і ад сваіх пацыентак яна ведае, што многія сем'і ў вёсцы жывуць на бульбе з малаком, а часам і на голай бульбе. Што не спрыяе ўмацаванню здароўя дзяцей.

Андрэй Леанідавіч — старшыня прызыўной камісіі. Да службы ў арміі, як правіла, прызнаецца годнай палова навабранцаў. Якія адхіленні ў здароўі? Захворванні вачэй, павышаны артэрыяльны ціск, плоскаступнёвасць, скаліёз. Адным словам, усе тыя хваробы, якія маюць месца і ў "чыстай" зоне.

З 1993 года ў бальніцы ўведзена кантрактная сістэма. Для медыцынскіх работнікаў уведзен шэраг ільгот. Але ўзяць такі момант. Пасля сутак працы для ўрача прадугледжаны суткі адпачынку. Не заўсёды гэтае правіла можна рэалізаваць на справе. Бывае, напрыклад, у суткі двое родаў, і ўрач абавязаны прысутнічаць пры родах, каб пазбегнуць непрадбачанага зыходу.

У той жа час нельга гаварыць аб значным павелічэнні таго або іншага захворвання. Хоць і тут нельга не ўлічваць сацыяльны фактар. Холадна ў кватэрах — усплёск прастудных захворванняў. Дык хіба віна ў гэтым урачоў?

Пачула я і такое меркаванне. Работа ўрача ў зоне — вялікая мажлівасць рэалізаваць свой творчы патэнцыял. 30-гадовы хірург робіць складаныя аперацыі. А ў сталіцы бывае так, што ў 40-45 гадоў урач — усяго толькі чаляднік. З гэтым магу пагадзіцца — работа ў "раёнцы" на пачатку прафесійнага шляху нікога з маіх калег не сапсавала. Так і ў медыцыне.

Слабае месца бальніцы, у прыватнасці аддзялення гінекалогіі, — платныя паслугі. Умовы бальніцы не дазваляюць аказваць бясплатныя паслугі асобам, якія не прапісаны ў Брагінскім раёне. Узнікае шмат спрэчак, канфліктаў. Але гэтая тэма — для асобнай размовы.

* * *

Дырэктар Дублінскай базавай школы Любоў Пятроўна Малочка працуе на гэтай пасадзе амаль шаснаццаць гадоў. Сама мясцовая — з суседняй вёскі Просмычы. Адным словам, у сваёй установе яна — чалавек пастаянны, сапраўдны гаспадар. У школе вельмі ўтульна, шмат пакаёвых кветак, якія радуюць вока і ў класах, і ў фае. У 1987 годзе гэта была першая школа ў раёне, дзе паклеілі шпалеры.

Першыя гады пасля чарнобыльскай катастрофы было вельмі цяжка. Многія настаўнікі паехалі ў іншыя месцы, хоць афіцыйна Дублін не падлягаў высяленню. Працавалі студэнты — з Мінска, Баранавіч, Мазыра. Асабліва добрым словам Любоў Пятроўна ўспамінае студэнтаў Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, якія выкладалі вельмі добра.

Гадоў пяць таму назад калектыў стабілізаваўся. Праўда, спецыфіка сельскай школы не дазваляе мець спецыяліста па кожным прадмеце, таму многія працуюць на паўтары стаўкі. Праблема з выкладчыкамі хіміі, біялогіі.

Няма ў школе спартыўнай залы. Яна, на жаль, стала "даўгабудам". Хоць побач стаіць разбураны дзіцячы садок — не было магчымасці наладзіць яго ацяпленне. Дык можа лепш было пабудаваць спартыўную залу? Раней калгас імя Гагарына быў адным з лепшых — падкормліваў мясцовае кіраўніцтва, і тое не заставалася ў даўгу. Цяпер становішча больш сумнае.

У дзецях, як у люстэрку, бачны ўсе праблемы сям'і. А яны вядомыя — п'янства, безграшоўе, нават бойкі. Толькі вось прыслухоўваюцца яшчэ ў вёсцы да меркавання настаўнікаў, дырэктара. Дзвюх жанчын удалося выратаваць ад вялікага сяброўства з зялёным змеем. У першай ужо чатыры гады — лад і спакой у сям'і. Як будзе далей? Хто ведае?.. Але дзеці за гэты час падраслі, пасталелі.

Любоў Пятроўна — вялікі працаўнік нездавальняючых адзнак. З вёсак Юркавічы, Валахоўшчына дзеці ходзяць у школу за некалькі кіламетраў. Умовы жыцця не ва ўсіх райскія. Дык навошта псаваць настрой дзіцяці яшчэ і ў школе, рабіць вучобу для яго мукай? Правільнае гэта меркаванне ці не, не ведаю, але яно гуманнае.

Ёсць у вёсцы цудоўная настаўніца-пенсіянерка — Ева Міхайлаўна Макаранка. Адпрацавала яна 55 гадоў, пайшла на пенсію ў 74 гады. Што давала ёй сілы? Любоў да дзяцей, да роднай школы, да прыгожых мясцін. Гэта ратуе ў хвіліны смутку і Любоў Пятроўну. А ўвогуле яна выкладае беларускую мову і літаратуру і заўсёды вельмі любіла свой прадмет.

У "Летапісе школы" ёсць радкі Генадзя Бураўкіна:

— Мы здалёк убачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут...
Божа,
Не давай майму народу
Пошасці,
Няпраўды
І Пакут.

Так што ў маленькай школцы на Брагіншчыне, за некалькі сот кіламетраў ад сталіцы, дбаюць пра свабоду і ўласную годнасць.

### Эпілог

Што чакае Брагін? У бальніцы ад некаторых урачоў я чула даволі аптымістычны прагноз. Менш аптымістычнай была размова на гэтую тэму з Ганнай Мікалаеўнай Бабрынёвай.

— Брагін па-ранейшаму зона болю. І тое, што ў нас ёсць урачы, настаўнікі, іншыя спецыялісты, абумоўлена некаторымі льготамі, надбаўкамі да зарплаты, вялікім адпачынкам. Таму вельмі рана гаварыць пра тое, што праблемы вырашаны. Многае робіцца, каб стабілізаваць сітуацыю ў гарпасёлку і раёне, але трэба рабіць яшчэ больш...

І я таксама не ведаю, ці зможа Брагін стаць утульным правінцыяльным гарадком, якім ён быў у часы маёй маладосці. Ці зможа залячыць такія вялікія, не пабаюся гэтага слова, гнойныя раны? Але людзі тут жывуць, кожны рана альбо позна робіць свой выбар. Зусім нядаўна мне расказалі пра адну жанчыну-перасяленку, якая ніводнага дня не пражыла ў сваёй сталічнай кватэры і ўрэшце яе прадала, тым самым спаліўшы ўсе масты ў "чыстую" зону. І фізічнае здароўе часта залежыць ад псіхічнага стану чалавека. Можа таму многія перасяленцы адышлі ў іншы свет ужо ў сталіцы. І не заўсёды толькі старыя. Хто яго ведае, які лёс чакае кожнага з нас?

А пакуль жадаю ўсім тым, каго спаткала ў зоне болю, — здароўя і шчасця. А яно няхай у кожнага будзе сваё...

**Ала ШАЎЦОВА.**

